Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

3 — 9 красавіка 1999 года
№ 14 (172)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 8000 руб.
Цана ў розніцу — 12000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ



## ЗАЎТРА — ВЯЛІКДЗЕНЬ

*(па календары каталіцкай канфесіі)*

*"Хрыстос уваскрэс!" "Сапраўды ўваскрэс!" Такімі воклічамі штогод апавяшчаецца ўвесь каталіцкі свет. Не шмат слоў у гэтых узаемных прывітаннях вернікаў, але як многа гаворыць яны нашаму розуму і сэрцу.*

*Хрыстос уваскрос! Гэтымі двума словамі чалавечыя вусны прызнаюць найвялікшае цуда, выказваюць найглыбейшую ісціну. Не усімі гэтая ісціна спасцігаецца і ўсведамляецца ва ўсёй яе велічы і глыбіні, аднак усімі яна адчуваецца, усімі валодае. Веруючыя і няверуючыя — усе адчуваюць над сабой уладнасць вечнай ісціны, усе паддаюцца яе ўздзеянню.*

*Хрыстос уваскрэс! Радуйся, мой родны край. Надзея, як жывучая вада, льецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэснеш ад доўгага сну.*

*Са Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем! Віншуем усіх вернікаў-каталікоў з вялікім святам. Хай яно заўсёды вас натхняе на добрыя справы.*

*Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!*

БЯРОЗА

### "Мякка" сцелюць ды мулка стаяць

Упершыню за апошнія паўтара гады Бярозаўскі райвыканкам даў дазвол раённай радзе БНФ "Адраджэнне" на правядзенне 28 сакавіка пікету, прымеркаванага да 81-ых угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Магчыма, гэта адбылося з-за таго, што старшыня рады сп. Русецкі пасля адной з чарговых адмоваў звярнуўся з іскам у суд.

Праўда, месцам правядзення пікету райвыканкам вызначыў гарадскі стадыён — бязлюдны, калі там няма спартыўных мерапрыемстваў. У выніку вельмі няшмат людзей, што крочылі паўз стадыён, бачылі пікітоўцаў пад бел-чырвона-белым сцягам з ефрасіньеўскім крыжом і іх плакаты з лозунгамі: "Расія і Беларусь: чым саюз цяснейшы, тым народ бяднейшы", "Не дапусцім, каб Беларусь уцягнулі ў чужыя войны!" і іншымі.

Між тым, раённая газета "Маяк" нібы ў апраўданне "мяккасці" вертыкалі надрукавала артыкул М. Сакалоўскага, у якім ганьбяцца бэнээфаўцы за правядзены пікет і ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

ІВАЦЭВІЧЫ

### Ці выручаць пенсіянеры?

Праблема механізатарскіх кадраў у нашых калгасах не знікае, а штогод набывае самы востры характар. Пачаліся веснавыя палявыя работы, а на трактары садзіць у многіх гаспадарках няма каго. Хто маладзейшы і больш спраўны, падаўся то ў горад, то ў лясніцтва, то ў іншыя арганізацыі, каб хоць большменш зарабіць, каб можна было пракарміць сям'ю.

Уявіце сабе трактарыста, які месяц дзень у дзень тросся на тым "Беларусу" і атрымаў зарплаты каля двух мільёнаў рублёў. Ці будзе ён адчуваць сябе кармільцам і галавою сям'і?

Кіраўнікі гаспадарак пачалі клікаць на дапамогу пенсіянераў. Ледзь не ў ногі кланяюцца старым людзям, каб хоць на веснавой сяўбе папрацавалі. Частка іх згадзілася. Але, думаецца, гэта не вырашыць праблему кадраў. Дабітыя да ручкі калгасы не маюць сродкаў для аплаты працы. Штогадовыя дзяржаўныя крэдыты не вырашаюць, у прыватнасці, не толькі кадравую праблему, а наогул праблему далейшага існавання тых жа абанкруціўшыхся калгасаў. Бо накарміць свой народ яны ўжо сёння не могуць. Ці выручаць пенсіянеры?

### Здаюць свае пазіцыі

Жывёлаводы раёна летась загадзя рапартавалі аб выкананні гадавога плана продажу дзяржаве малака і мяса. Здавалася б, і сёлета павінны былі далей нарошчваць вытворчасць гэтай прадукцыі.

Па даных раённага аддзела статыстыкі, за два месяцы гэтага года амаль усе гаспадаркі раёна ідуць з мінусам. Выкананне гадавога плана продажу малака дзяржаве склала толькі 10,1 працэнта. Калі і далей так пойдуць справы, то і разбаўленага малака ў магазінах нельга будзе купіць.

Якія ж прычыны такога "гаспадарання"?

Асноўныя — недахоп кармоў. На адной саломе і смярдзючым сіласе далёка не паедзеш.

У мясной жывёлагадоўлі прычына тая ж. Не хапае якасных кармоў. Праўда, план па мясу як быццам выконваецца. Але ж гэта знешні бок гэтай справы. У тых гаспадарках, дзе безвыходнае становішча, мяса дабіваецца лёгка — за кошт прырэзак жывёлы. Закупка маладняку ў насельніцтва ідзе слаба. Вяскоўцы згодны прадаваць сваю жывёлу любому, толькі б не калгасу.

На жаль, калгасныя жывёлаводы здаюць свае пазіцыі. І не віна іх у гэтым. Без якасных кармоў не будзе і якаснай прадукцыі. Такі суровы закон прыроды.

### Перабоі з хлебам

У рэдакцыю патэлефанавалі жыхары паўночнага мікрараёна г. Івацэвічы: "Чаму ў магазінах да абеда 31 сакавіка не было хлеба?"

Рэдакцыя з гэтым пытаннем звярнулася ў Івацэвіцкі камбінат кааператыўнай прамысловасці, дзе адсутнасць хлеба ў некаторых магазінах растлумачылі адсутнасцю электраэнергіі на хлебакамбінаце (нешта здарылася на падстанцыі).

Начной выпечкі хлеба ва ўсе магазіны не хапіла. Зараз хлебакамбінат працуе ў ранейшым рытме.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ИНГА. Работаю преподавателем. Вкусы самые разные. Любимый актер Р. Нахапетов. Музыку слушаю самую разную, но предпочитаю, как ни покажется кому-то странным, хорошую классику — Бах, Моцарт, Бетховен...*



**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Каждуб, Л. Цалуйка (Івацэвічы), С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), Г. Строцкая (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. Ганчук.**

БАРАНАВІЧЫ

### Мітынг у парку

З нагоды 81-х угодкаў утварэння БНР і ў абарону незалежнасці Рэспублікі Беларусь у маладым парку г. Баранавічы праведзены мітынг, арганізаваны гарадской радай БНФ "Адраджэнне". Каля 200 чалавек, што сабраліся тут, ушанавалі мінутай маўчання заўчасна загінуўшага ў аўтамабільнай аварыі лідэра Народнага Руху Украіны В. Чарнавіла і бязвінных людзей, што цяпер гінуць у Югаславіі.

Выступоўцы Віктар Сірыца, Алесь Горбач, Таццяна Сташэўская, Сяргей Гоўша і Галіна Багдановіч гаварылі аб гістарычнай значнасці ўтварэння БНР, непакоіліся аб незалежнасці і далейшым лёсе РБ, асудзілі імкненне ўладных структур вярнуць ядзерную зброю на тэрыторыю краіны.

ПРУЖАНЫ

### Горячей воды не будет?

В понедельник утром в Пружанах неожиданно была отключена горячая вода. Инициатором этого "приятного" сюрприза выступил районный исполнительный комитет.

Что интересно, на подъездах домов службой РПО ЖКХ было вывешено объявление о якобы технической причине отключения отопления и горячего водоснабжения. Но сотрудники ЖКХ отвергли эту версию, сославшись на решение "Белого дома" по этому вопросу.

Неужели в конце XX века жители г. Пружаны, живя в центре Европы, не заслужили у своего правительства права на элементарное соблюдение гигиены?

### Театр для провинциалов

В прошедшие выходные к пружанским любителям театрального искусства заглянул Брестский драматический театр с комедией "Без меня меня женили".

На удивление, почитателей этого театра оказалось довольно много. Цена на билеты (50000 рублей) была приемлемой. Так что приобщиться к искусству по цене за 2 буханки хлеба было предостаточно. Тем более, что многим билеты достались бесплатно. За них заплатили родные предприятия.

Сама атмосфера в зале уже напоминала спектакль: зрители постоянно перемещались по залу, скрипели старые деревянные стулья, раздавались то крик, то плач ребенка. Организаторы суетились, успокаивая зрителей.

Сам по себе спектакль не произвел должного впечатления. Убогие декорации не создавали атмосферу для зрительских восприятий происходящего. Натянутая игра актеров, видно, была рассчитана на людей с примитивными запросами. Но в общем-то зрители увидели поучительную историю для холостяков. А эта тема сегодня актуальна для многих мужчин. Может, лучше было бы просто прочитать лекцию о том, как, когда и на ком нужно жениться...

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Выбары без выбару

*Выбары ў мясцовыя Саветы Брэсцкай вобласці практычна ва ўсіх сельскіх акругах будуць безальтэрнатыўнымі.*

1.065.461 жыхар Брэсцкай вобласці могуць узяць удзел у выбарах у мясцовыя Саветы, якія адбудуцца сёлета 4 красавіка.

Як паведамілі ў абласной тэрытарыяльнай камісіі па выбарах, на 60 месцаў у абласавеце прэтэндуюць 134 чалавекі, на 599 месцаў у райсаветах — 688 кандыдатаў, на 139 месцаў у гарадах абласнога падпарадкавання — 315 чалавек, за месцы ў 73 акругах гарадоў раённага падпарадкавання будуць змагацца 315 кандыдатаў. Практычна ва ўсіх сельскіх акругах будуць праходзіць безальтэрнатыўныя выбары.

У большасці сваёй кандыдаты прадстаўляюць бюджэтную сферу і дзяржаўныя органы кіравання; немалой колькасцю прадстаўлены працаўнікі прамысловых прадпрыемстваў, шмат хто з прэтэндэнтаў ужо з'яўляліся дэпутатамі мінулага склікання. Кожны трэці кандыдат у дэпутаты — жанчына. Сярод кандыдатаў ёсць каля сотні беспрацоўных.

З 30 сакавіка могуць галасаваць усе тыя, хто не будзе мець магчымасці прыйсці на выбарчыя ўчасткі 4 красавіка. Як вядома, выбары будуць лічыцца прайшоўшымі, калі ў іх возьмуць удзел больш за палову выбаршчыкаў. У сувязі з чым мясцовыя апазіцыянеры заклікаюць байкатаваць выбарчую кампанію. Шматлікія грамадскія арганізацыі абласнога цэнтра рэгіструюць сваіх назіральнікаў на ўчастках для правядзення выбараў. Каардынуе працу грамадскіх назіральнікаў прадстаўнік камітэта выбаршчыкаў Украіны Раман Кашавы.

## Не ўдзельнічаюць у галасаванні

*Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл Беларусі зацвердзіла тэкст улёткі, якую распаўсюдзіла напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы, прызначаных на 4 красавіка.*

"Мы не пойдзем на выбары без выбару!" — такі асноўны лозунг улёткі. Яе аўтары заяўляюць, што "улады ператварылі выбары ў мясцовыя Саветы ў фарс", паколькі "незалежныя кандыдаты, якія не баяцца змагацца за простых людзей, не былі зарэгістраваныя падначаленымі ўладамі выбарчымі камісіямі".

Такім чынам, сцвярджаецца ва ўлётцы, "у бюлетэні застануцца толькі пажаданыя ўладам кандыдаты, гатовыя служыць начальству, а не народу". Каардынацыйная Рада заяўляе, што не збіраецца браць удзел у "спектаклі, наладжаным для падману народу".

## М. Чыгір затрыманы праваахоўнымі органамі

*Некалькі дзён таму былы прэм'ер-міністр Беларусі, кандыдат на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір затрыманы праваахоўнымі органамі нібы па падазрэнню ва ўчыненні крадзяжу ў асабліва буйных памерах.*

Следчым камітэтам МУС зараз расследуецца крымінальная справа па факту крадзяжу 1 мільёна долараў у АКБ "Белаграпрамбанк" у тыя часы, калі гэтым банкам кіраваў М. Чыгір. Таму ён затрыманы ў якасці падазраваемага па гэтай справе.

Дэмакратычная ж грамадскасць лічыць, што ўся гэтая шуміха мае толькі палітычную падаплёку. Не будзь М. Чыгір кандыдатам у прэзідэнты на выбарах, аб'яўленых дэпутатамі 13-га склікання, і зарэгістраванага 29 сакавіка Цэнтральнай выбарчай камісіяй, ніхто яго ні ў чым не падазраваў бы.

## Вада адступае

*Паводка. Пайшла ў наступ вялікая вада на ўсходняй ускраіне Брэсцкай вобласці.*

Тут працуюць камісія па надзвычайных сітуацыях аблвыканкама, прадстаўнікі абласнога штаба грамадзянскай абароны. Па іх дадзеных, затоплена 104,64 тысячы га плошчаў (у Пінскім раёне — 66,3 тыс. га, у Столінскім — 33, Лунінецкім — 5, Івацэвіцкім — 300 га). 5,3 тыс. га азімых аказаліся пад вадой у Столінскім, у Лунінецкім — 500, Івацэвіцкім — 110, Пінскім — 1340 гектараў. Пацярпелі 99 населеных пунктаў, 2700 жылых дамоў, 5013 гаспадарчых пабудоў.

На ліквідацыі наступстваў вясенняй паводкі працуюць 997 чалавек, задзейнічана 320 адзінак тэхнікі.

Папярэднія матэрыяльныя страты ацэньваюцца ў 100 мільярдаў рублёў.

## СНІД распаўзаецца

*Як паведамілі ў рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД, на першы дзень вясны ў Беларусі зарэгістравана 2.407 ВІЧ-інфіцыраваных.*

Медыкаў хвалюе той факт, што "чума XX стагоддзя" за кароткі час распаўзлася па ўсёй тэрыторыі нашай краіны. ВІЧ-інфіцыраваныя выяўлены ўжо на 73 адміністратыўных тэрыторыях. Сітуацыя абвастрылася на Брэстчыне, у Пінску і Баранавічах. У Мінску зарэгістравана 245 носьбітаў смяротнага вірусу.

Як сцвярджаюць спецыялісты, афіцыйныя дадзеныя яшчэ не адлюстроўваюць рэальнай сітуацыі. Цікава, што ананімнае тэставанне на СНІД у нас штогод праходзіць усяго каля 30 тысячаў чалавек. Затое ў закрытых установах колькасць інфіцыраваных вырасла. Паводле аператыўных дадзеных МУС, у турмах выяўлена 636 носьбітаў смяротнай інфекцыі.

*(БелаПАН).*

# Пра кандыдатаў нічога не ведаем, а галасаваць — запрашаюць...

*— "Газета для вас?" Скажыце, калі ласка, чаму на старонках вашага выдання мала інфармацыі, якая датычыцца выбараў у мясцовыя Саветы? Здаецца, толькі адзін кандыдат і выступіў са сваёй праграмай. Тым больш незразумела, чаму слова кандыдатам у дэпутаты не дае "Івацэвіцкі веснік" і раённае радыё. Пра кандыдатаў нічога не ведаем, а галасаваць запрашаюць. Усё абмежавалася нейкімі расклеенымі лістоўкамі ў людных месцах, большасць з якіх людзі паабрывалі. Такое адчуванне, нібы ўлады гэтыя выбары не толькі замоўчваюць, але і наогул не хочуць праводзіць...*

*Ніна Паўлаўна, г. Івацэвічы.*

**Вось які адказ на пытанне нашай чытачкі даў намеснік старшыні Івацэвіцкага райвыканкама па інфармаванні і сувязях з грамадскасцю Л. К. СКІНДЗЕР:**

— Выбары ў нашым раёне адбываюцца ў адпаведнасці з Законам аб выбарах, і мы кіруемся гэтым Законам. У сувязі з тым, што раённая газета "Івацэвіцкі веснік" перагружана, мы палічылі немэтазгодным, немагчымым публікаваць на старонках раёнкі праграмы кандыдатаў, тым больш, што закон сцвярджае: усе кандыдаты ў дэпутаты павінны мець роўныя магчымасці.

Што тычыцца раённага радыё, то кожнаму з кандыдатаў было прапанавана выступіць па пяць хвілін у эфіры. Тое, што кандыдаты ў дэпутаты не скарысталі гэтую магчымасць і выбралі для сябе іншыя віды інфармавання насельніцтва, з'яўляецца іх асабістай справай. Лічу, што сітуацыя з выбарамі ў нас нармальная, і яны пройдуць спакойна, без зрываў.

ххх

**АД РЭДАКЦЫІ:** Адказ гэты выклікае па меншай меры здзіўленне. Яшчэ ў нядаўнія часы выбары ў мясцовыя Саветы былі кроўнай і вельмі адказнай справай мясцовых уладаў. Усе кандыдаты ў дэпутаты абавязаны былі надрукаваць у мясцовым друку свае праграмы. Калі хто не мог іх напісаць сам, яму дапамагалі. І месца ў раёнцы гэтым праграмам, біяграфіям кандыдатаў адводзілася не на апошняй старонцы. Таму спасылка на перагружанасць "Івацэвіцкага весніка" не пераконвае (зрэшты, ці аналізуе хто-небудзь, чым "забіваюцца" старонкі гэтай раёнкі, ці сапраўды рацыянальна выкарыстоўваюцца сродкі падаткаплацельшчыкаў, на якія яна выдаецца?).

На нашу думку, справа тут не ў перагружанасці як "Івацэвіцкага весніка", так і іншых афіцыйных раёнак рэгіёна. Наяве нейкая абыякавасць да выбараў як мясцовых улад, так і саміх кандыдатаў у дэпутаты. А прычына абыякавасці — у эканамічным крызісе, рэзкім збядненні народа. Ну што можа сказаць выбаршчыкам той ці іншы начальнік-чыноўнік (а іх сярод кандыдатаў у дэпутаты большасць), калі ў людзей няма ні нармальнай зарплаты, ні веры ў тое, што гэтыя начальнікі-кандыдаты ў дэпутаты могуць нешта змяніць да лепшага ў будучым?

Што датычыць "Газеты для вас", то яна піша пра ўсё, што рэальна адбываецца ў жыцці і цікавіць людзей. Няма ў нашых падпісчыкаў ніякага інтарэсу да выбараў у мясцовыя Саветы, не вераць яны, што тыя, хто ідзе ў дэпутаты, могуць нешта палепшыць у жыцці — пра гэта мы і пісалі. Давалі слова і тым, хто лічыць гэтыя выбары наогул нелігітымнымі і заяўляе аб сваім намеры не прымаць у іх удзелу.

Зрэшты, паглядзіце, што адбываецца: самі кандыдаты ў дэпутаты адмаўляюцца ад магчымасці звярнуцца да выбаршчыкаў праз друк (у "Газету для вас" звярнуўся толькі адзін кандыдат у дэпутаты, якому і было дадзена слова) і радыё, а ўлады, у першую чаргу — райсаветы і аблсавет, спакойна адносяцца да сітуацыі, калі выбаршчыкаў запрашаюць галасаваць за тых, пра каго яны нічога не чулі... Некалі ўсе савецкія сродкі масавай інфармацыі вяшчалі: галасуем за кандыдатаў у дэпутаты — галасуем за ўладу! Дык мо ніхто ўжо ў гэтую ўладу не верыць, у тым ліку і сама ўлада?

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Патрэбен калектыўны зварот

*— "Газета для вас"? Прапануйце, калі ласка, нашым уладам зрабіць хай не сістэматычны, але хоць часовы, па рэлігійных святах, аўтобусны маршрут на могілкі ў в. Панкі. Зразумейце, што нам, старым людзям, цяжка дабірацца туды.*

*Алена ВАСІЛЕВІЧ, 64 гады, г. Івацэвічы.*

**З прапановай чытачкі мы звярнуліся да начальніка Івацэвіцкага аўтапарка № 14 І. М. ХМЯЛЕЎСКАГА.**

Вось які мы пачулі адказ:

— Наша арганізацыя, канешне, служыць для аказання паслуг, таму, зразумейце, мы не супраць таго, каб людзі па святах наведвалі могілкі родных, блізкіх. Але ад майго асабістага жадання ці ад жадання нашай адміністрацыі мала што залежыць. Ёсць тут некаторыя акалічнасці, якія нельга не ўлічваць. Каб рэалізаваць пытанне з маршрутам на могілкі ў в. Панкі, патрэбен калектыўны зварот жыхароў у райвыканкам, дзе гэта пытанне разгледзяць і зробяць адпаведныя вынікі.

Ад аўтапарка вырашэнне пытання мала залежыць яшчэ таму, што сённяшнія часы — не самыя лепшыя для нашай арганізацыі. Маршруты нашых аўтобусаў усе стратныя, некаторыя не акупаюць нават бензін. А сёння адно кола каштуе звыш 20 мільёнаў. Але дзякуючы грузавым перавозкам і дзяржаўным датацыям мы яшчэ трымаемся...

ххх

Вось такі адказ. Вы можаце сабе ўявіць, паважаныя чытачы, каб "праклятны" капіталіст, ведаючы пра запатрабаванне сваёй паслугі, адмовіўся яе аказаць да грошы на гэтым зарабіць? У нас жа сістэма такая: пакуль вертыкаль не ўкажа, ніхто пальцам не варухне. Бо нельга. Дык якія тут можна весці размовы пра ўздым эканомікі? А тое, што пра людзей (а іх шмат), якія на могілкі хацелі б на аўтобусе заехаць, ніхто да гэтай пары не падумаў. Справа ўжо, як гаворыцца, звыклая...

СПОРТ

## У кампаніі мацнейшых

Спартыўная зала Баранавіцкага стадыёна "Лакаматыў" стала месцам правядзення першынства Ваенна-Паветраных Сіл Рэспублікі Беларусь па самба. 14 каманд з многіх часцей ВПС краіны бралі ў ім удзел. 110 спартсменаў-ваеннаслужачых розных вагавых катэгорый два дні вялі напружаную барацьбу.

Спартыўная шчасце ўсміхнулася гаспадарам. Каманда з Баранавічаў, у якую ўваходзілі двухразовыя чэмпіёны Узброеных Сіл Беларусі кандыдат у майстры спорту Алег Дабрыян і майстар спорту Ігар Цэдык, стала чэмпіёнам. У асабістым заліку першыя месцы занялі шэсць баранавіцкіх ваеннаслужачых і двое — трэцяе месца.

*Л. САШЫН.*

## Перамога ў гасцях

Рыхтуючыся да новага сезона, футбалісты каманды "Пружаны" правялі размінку: сустрэліся ў Брэсце з мясцовай камандай "Водаканал". З лікам 2:0 перамаглі падапечныя Сыраквашкі — трэнера пружанцаў.

*В. ПАЎЛЮСЮК.*

**г. Пружаны.**

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 31.03.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 340—370 | 360—460 | 350—400 | 350—410 |
| Сала салёнае | 360 | 380 | 450 | 320—350 |
| Алей (1 л) | 315—380 | 280—380 | 280—340 | 310—390 |
| Яйкі | 90—110 | 100—120 | 130—140 | 90—110 |
| Малако (3 л) | 60 | 80 | 60—80 | 50—70 |
| Тварог | 70 | 80 | 90 | 80 |
| Масла сметанк. | 320 | 320 | 340 | 270—310 |
| Цыбуля рэпч. | 135 | 140—160 | 150 | 140—160 |
| Капуста | 70—80 | 70—80 | 70—80 | 40—60 |
| Бульба | 30 | 30 | 30 | 25—35 |
| Морква | 70 | 60—80 | 60 | 35—45 |
| Часнок | 400 | 500 | 400 | 300—350 |
| Яблыкі | 100—170 | 170—200 | 150—170 | 120—170 |
| Лімоны | 400 | 400 | 400 | 380—420 |
| Апельсіны | 320—360 | 380 | 380 | 320—340 |
| Бананы | 360 | 380 | 360—380 | 310—330 |
| Грэчка | 140 | 140 | 140 | 130—140 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—110 | 110—120 | 100—130 |
| Рыс | 175 | 170 | 180 | 150—180 |
| Цукар | 135 | 150 | 145 | 140—160 |
| Мёд | 800 | 800 | 850 | 800 |

### ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ

**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 345 | 360 | 360 | 380 | 340 | 380 | 340 | 370 |
| 1 дойчмарка | 175 | 195 | 180 | 206 | 180 | 205 | 180 | 206 |
| 1 рубель Расіі | 12,5 | 13,5 | 13 | 15 | 13 | 14 | 13,5 | 14,5 |

ГОЛАС НАРОДА

# Ці пайшлі б вы ваяваць добраахвотнікам у Югаславію?

*Нечаканы ўсплеск палітычных заяў, эмоцый, прапаноў выклікала ў рэспубліцы бамбардзіроўка краінамі НАТА Югаславіі. Пра выказванні на гэты конт кіраўнікоў Беларусі ды й Расіі вы, шаноўныя чытачы, безумоўна, ведаеце. Абедзьве дзяржавы ўстрымліваюцца ад ваеннай дапамогі югаславам, хоць занялі вельмі жорсткую пазіцыю ў адносінах да НАТА. Між тым, як сведчаць ГРТ, РТР, іншыя СМІ, у Расіі ідзе набор добраахвотнікаў на вайну ў Югаславію. А як, дарэчы, нашы суграмадзяне аднесліся да заклiку ісці на дапамогу братам-славянам, калі б такі, канешне, быў? Вось якія адказы далі нам жыхары Івацэвіцкага раёна.*



**Аляксандр Сяргеевіч:** Я не пайшоў бы. Хоць бачу, што там вялікая няпраўда робіцца, але ўсюды, лічу, нельга свой нос усоўваць. Успомнім Афганістан. Якія інтарэсы абаранялі нашы хлопцы там? За што яны там гінулі? Хіба можна апраўдаць смерць маладых юнакоў нейкім інтэрнацыянальным абавязкам? І хіба інтэрнацыянальны абавязак абавязкова прымушае браць у рукі зброю?



**Валера:** Ці пайшоў бы добраахвотнікам? Канешне, не! Рабіць мне больш няма чаго. Яно зразумела, югаславы — славяне, нашы браты, але трэба клапаціцца аб яшчэ бліжэйшых родзічах. Як я пайду ў тую ж Югаславію, калі ў мяне дома дачка малая гадуецца? У такія гульні, напэўна, увязваюцца тыя, хто хоча злавіць рыбку ў мутнай вадзе, зарабіць грошы, аўтарытэт свой павысіць. За проста так ніхто сябе пад кулі падстаўляць не стане.

**Саша:** Не, не пайшоў бы. Калі б быў ваенны загад, то нікуды, вядома, не дзеўся. Інакш жа — трыбунал. Трэба весці нармальную палітыку, і ўсё будзе добра. Я не думаю, што пасля Югаславіі НАТА будзе Беларусь бамбіць. Гэта — абсурд.

Я думаю, што НАТА павінна спыніць бамбардзіроўкі Югаславіі, бо там гінуць простыя людзі. Аднак асуджаю і тых, хто хоча ўцягнуць Беларусь у канфлікт з Еўропай, размясціўшы на яе тэрыторыі ядзерную зброю.

**АД АЎТАРА. Як сведчыць гэтае маленькае бліц-апытанне, нашы суграмадзяне спакойна адносяцца да тых падзей, якія адбываюцца на Балканскім паўвостраве, і скептычна да ўмоўнага заклiку паваяваць там. Беларускае кіраўніцтва тонка ўлавіла гэты настрой і не вядзе ніякіх размоў аб наборы добраахвотнікаў на вайну ў Югаславію. Бо ў адваротным баку, у сувязі з нежаданнем простых беларусаў браць у рукі зброю, прыйшлося б нашым кіраўнікам самім ісці добраахвотнікамі супраць НАТА.**

*А. ГОРБАЧ, А. ГАНЧУК (фота).*

КРЫМІНАЛ

# "Забілі старога"

***Так называлася інфармацыя, змешчаная ў нашай газеце ў сакавіку гэтага года. Гаворка ішла пра тое, што ў вёсцы Селец Івацэвіцкага раёна забілі старога чалавека.***

***Нашы чытачы зацікавіліся абставінамі такога дзікунства. Наш карэспандэнт выехаў на месца, каб што-колечы даведацца пра гэтую зусім не радавую падзею ў вёсцы.***

Хто ж загінуўшы стары? Гэта Васіль Васільевіч Гаварушка. Пенсіянер. Яму было 74 гады. Жыў у хаце сам. Жонка памерла 20 гадоў таму. У гады вайны быў вывезены ў Нямеччыну. Як вязень фашысцкай Германіі атрымліваў так званую кампенсацыю маркамі.

Працаваў Гаварушка то ў мясцовым калгасе, то ў лясніцтве. У яго пяцёра дзяцей. У Сельцах і ў Івацэвіцкім раёне ніхто з іх не жыве. Застаўшыся адзін у хаце, Васіль Васільевіч часта прыкладжваўся да чаркі. Відаць, думаў такім чынам узняць свой сумнаваты настрой. Нічога з гэтага не атрымалася.

Апошнія гады звязаў свой лёс з баптыстамі. Піць перастаў, пачаў маліцца. У яго хаце збіраліся браты і сёстры па веры. Нічога дрэннага ў гэтым ніхто не бачыў і не адчуваў. Праўда, некаторыя вяскоўцы насміхаліся са старога, асабліва былыя сабутэльнікі. Але Васіль Васільевіч не звяртаў на гэта ўвагі.

У студзені гэтага года да Гаварушкі прыехаў яго ўнук з Падмаскоўя разам са сваім сябрам. Адным казаў, што ў госці да дзеда прыбыў, другім — на заработкі ў Беларусь. Як бы там ні было, а двое маладых людзей (22-х і 28-мі гадоў) жылі ў хаце Васіля Васільевіча некаторы час.

Пра ўзаемаадносіны з дзедам можа, вядома, расказаць сам унук. Але яго ў вёсцы ўжо няма, ён адсюль з'ехаў.

У перадапошні дзень жыцця (а гэта было ў пятніцу вечарам) вяскоўцы, што праходзілі міма хаты Гаварушкі, чулі шум, нейкія крыкі, аднак на гэта ніхто не звярнуў увагі. Падумалася, што мо баптысты так шчыра моляцца.

А праз дзень нехта зазірнуў у акно хаты Гаварушкі і ўбачыў старога, які ляжаў на падлозе, накрыты коўдрай. Як аказалася, ён быў мёртвы.

— Ён быў зарубаны сякерай, рассечана галава, — сказала вясковая жанчына, якая разам з іншымі заглядвала тады ў хату.

Пра прычыны забойства ў Сельцы кажуць рознае, нават схільны да версіі, што старога чалавека забілі знаёмыя яму людзі. Але ж гэта толькі людскія меркаванні. Зараз вядзецца па факту забойства следства. З'явіліся новыя, больш абгрунтаваныя версіі. Аднак ужо відавочна, што забойца старога чалавека будзе знойдзены.

*С. РЫГОРАЎ.*

ПРАШУ СЛОВА

# Выбарчы фарс

Давайце ўспомнім асноўныя палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Законаў аб выбарах усіх прадстаўнічых уладаў. Згодна з гэтымі асноўнымі дакументамі выбары ў прадстаўнічыя ўлады могуць прызначацца толькі легітымным Вярхоўным Саветам, а не ўказам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

А цяпер давайце вернемся ў самае недалёкае мінулае. Успомнім сакавік-май 1994 г. — падрыхтоўка і правядзенне выбараў першага прэзідэнта незалежнай Беларусі. Успомнім далей: сакавік-чэрвень 1995 года — падрыхтоўка і правядзенне выбараў у Вярхоўны Савет 13-га склікання і мясцовыя Саветы. Цяпер лёгка вызначыць, што сёлета павінны адбыцца выбары прэзідэнта РБ, а не выбары ў практычна не маючыя вагі мясцовыя Саветы.

Правядзенне і кантроль над выбарамі павінны ажыццяўляцца легітымнай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, абранай Вярхоўным Саветам РБ. Рэгіянальныя і ўчастковыя камісіі павінны фарміравацца мясцовымі Саветамі з удзелам прадстаўнікоў усіх палітычных партый, аб'яднанняў і грамадскіх рухаў, а не выканаўчай вертыкаллю.

Згодна з Законам, прынятым непрызнанай усім светам, акрамя Расіі, Палатай прадстаўнікоў, у выбарах у мясцовыя Саветы могуць прымаць удзел грамадзяне Расіі, што супярэчыць артыкулу 37 нават Канстытуцыі 1996 г. Не вызначаны статус наглядальнікаў на выбарчых участках. Згодна з Законам рашэнне аб прысутнасці наглядальніка на выбарчым участку прымае ўчастковая камісія гэтага ўчастка.

Рашэнне вядомае: менш наглядальнікаў — менш клопатаў.

Кандыдаты ў дэпутаты, партыі, аб'яднанні і рухі іх прадстаўляючыя, павінны мець роўныя ўмовы па прадстаўленню сваіх праграм не за 1-2 тыдні да выбараў на пяць хвілін, а на працягу некалькіх месяцаў перад выбарамі ў электронных сродках масавай інфармацыі і друку. На падставе гэтых аргументаў Баранавіцкая гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэнне" прыняла рашэнне ў гэтым фарсе (прызначаныя выбары і тое, як ідзе падрыхтоўка да іх, можна назваць толькі паказухай і фарсам) не ўдзельнічаць. Таму, што прыняць удзел у выбарах 4 красавіка 1999 г. — гэта значыць прызнаць законнасць прызначаных выбараў і легітымнасць Палаты прадстаўнікоў.

Мы маем гонар, сумленне і адказнасць за сваю Радзіму — Беларусь і таму заяўляем, што пакуль не будуць створаны неабходныя ўмовы на падставе Канстытуцыі 1994 года, не могуць адбыцца ў РБ і свабодныя дэмакратычныя выбары. Для гэтага неабходна:

— свабодны і роўны доступ прадстаўнікоў усіх партый, аб'яднанняў і рухаў да сродкаў масавай інфармацыі з магчымасцю выкласці свае праграмы не менш чым за 6 месяцаў да выбараў;

— правядзенне выбараў усіх прадстаўнічых улад (выбары прэзідэнта, дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў) згодна з Канстытуцыяй і законамі і ў тэрміны, вызначаныя Канстытуцыяй РБ 1994 г;

— выбары ажыццяўляць і кантраляваць павінны толькі легітымная Цэнтральная выбарчая камісія, абраная Вярхоўным Саветам РБ, рэгіянальныя і ўчастковыя камісіі, сфарміраваныя з удзелам усіх дэмакратычных партый, аб'яднанняў і рухаў;

— свабодны на падставе закона доступ наглядальнікаў, у тым ліку замежных, ва ўсе рэгіянальныя і ўчастковыя камісіі.

Паважаныя выбаршчыкі! Рашэнне прымаць удзел у выбарах ці не прымаць вы зробіце самі, бо гэта справа сумлення кожнага. Але памятайце:

— выбары павінны праводзіцца толькі ў прызначаны на падставе закона дзень, згодна з Канстытуцыяй РБ;

— на падставе Канстытуцыі кожны грамадзянін РБ асабіста сам прымае рашэнне ўдзельнічаць у выбарах ці не. Усялякі ціск з мэтай прымусіць прыняць удзел у выбарах недапушчальны;

— са скрынкай для патаемнага галасавання члены ўчастковых выбарчых камісій могуць наведваць толькі хворых, нямоглых людзей, якія не могуць самастойна наведаць выбарчы ўчастак, па іх пісьмовай або тэлефоннай заяве і толькі ў прызначаны дзень выбараў.

*М. СЕВЕРЦАЎ, старшыня Рады Баранавіцкай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне".*

ВПЕЧАТЛЕНИЯ

# Барановичи глазами российской журналистки

Еще несколько месяцев назад Барановичи посетила Ирина Муравьева, журналистка из Арзамаса-16, ныне это город Саров Нижегородской области. Город небольшой, но знаменитый тем, что там в свое время работал академик Сахаров, и вообще это российский атомный центр. Народ живет немного лучше, чем вся остальная российская глубинка, как-никак — город закрытый. Даже чтобы выехать в командировку, приходится обивать пороги, а уж приехать туда первому встречному и вовсе невозможно.

Не так давно "Городской курьер" города Сарова поместил на своих страницах путевые очерки Ирины Муравьевой. Белорусскому читателю, полагаю, небезынтересно знать, что думают о нас соседи, как оценивают наше положение. Вот любопытные выдержки.

"...Кстати, заметила у белорусов привычку — стоимость любого товара переводить в доллары. Возможно, сказывается близость границы с ближним зарубежьем. Было непривычно, что очередь держалась не по-российски мирно. Даже когда объявили, что масло кончается, никто не вспомнил матушку президента и всех властей вместе взятых. Впрочем, не буду идеализировать ситуацию: в этот момент некий мужичонка пытался стянуть с прилавка батон колбасы..."

"...Мне приходилось бывать в белорусских магазинах и раньше. В отличие от наших, в них нет засилья импортного товара. Белорусы, по крайней мере в провинции, предпочитают вкушать собственные натуральные продукты — сыры, конфеты, кур, давно забытые нами сливки, творог, йогурты, прочие молочные деликатесы довольно хорошего качества".

"... В "Детском мире" поселка текстильщиков за три дня исчезли все до единой мягкие игрушки — они идут у поляков на ура. О постельных комплектах здесь нет и речи. Даже шутят, что уже и польские коровы спят на белорусских простынях..."

*Г. СТРОЦКАЯ.*

# Вокруг пальца



26 ноября прошлого года сотрудниками отдела финансовых расследований при вывозе с территории молочного комбината 18,5 тонны масла сливочного в адрес московской фирмы "Треал-Трейдинг" был задержан автомобиль АО "Омега" из Бреста. Представителем "Омеги" было предъявлено разрешение Минсельхозпрода РБ. Но в графе "наименование изготовителя" был указан Ганцевичский молочный завод.

С ситуацией разобрались быстро: в Ганцевичах масло не производят, поэтому сливки были привезены в Барановичи и масло здесь же находилось на ответственном хранении. И все же: по какой такой причине его вывозили в Москву, коль самим не хватает?

Ответ опять был прост: существует договор, по которому московская фирма "Треал-Трейдинг" поставляет хозяйствам Брестской области горюче-смазочные материалы, а в обмен получает крестьянское масло высшего сорта. Ничего криминального в этом не усмотреть. Однако все ж усмотрели! Ибо фирма нефтепродукты покупала на территории Беларуси и за белорусские деньги у концерна "Белнефтехим". То есть, в нашей же Беларуси его покупали и нам же продавали, вот только каким-то образом сумели добиться у Минсельхозпрода разрешение на вывоз масла. И получалось, что за свой бензин рассчитывались своим же маслом, а по документам это проходило как внешнеэкономическая сделка.

Пока не вмешался комитет финансовых расследований, из Беларуси ушли около 300 тонн масла. Были подготовлены еще 60 тонн непосредственно из Барановичей. Но власти приняли решение о приостановлении действия договора с фирмой "Треал-Трейдинг".

*Г. СТРОЦКАЯ. г. Барановичи.*

РЭАЛІІ ДНЯ

# Кніга — па-ранейшаму найлепшы падарунак

*Пытанне на засыпку: ці задушыў рынкавы сацыялізм кніжны гандаль? Ці купляюць наогул сёння кніжкі?*

*Дык вось, апынуўшыся ў складанай эканамічнай сітуацыі, мы па-ранейшаму набываем кнігі. Летась Івацэвіцкая кнігарня прадала друкаваных выданняў на 1 мільярд 746,8 мільёна рублёў. Дабаўце сюды яшчэ 545 мільёнаў за рэалізаваныя пісьмова-школьныя прылады. Атрымаецца тавараабарот мінулага года. Сёлета таксама, лічаць прадаўцы, справы ідуць няблага. Штодзённа кнігарня здае 10—12 мільёнаў выручкі.*

**ХТО ПЕРАСТУПАЕ ПАРОГ КНІГАРНІ**

Кнігі купляюць, хоць многім даводзіцца рабіць выбар на карысць хлеба, а не відовішчаў. Цяжэй за ўсё пенсіянерам. Гэта заўзятыя кнігалюбы, якія ў застойныя гады прывыклі заходзіць у кнігарні і набываць час ад часу мастацкую літаратуру, камплектуючы такім чынам свае ўласныя бібліятэкі. Кнігарня, па іх словах, гэта храм, куды яны прыходзяць падыхаць паветрам кніг. Калі няма магчымасці купіць, то хоць бы патрымаць кніжку ў руках, трапятліва яе пагартаць і нават крышачку пачытаць. Некаторыя ўсё ж адважваюцца аддаць апошнія тысячы за які-небудзь даведнік па народнай медыцыне ці тоненькі паэтычны зборнік.



*Прадавец Івацэвіцкай кнігарні Галіна Русак. Фота А. ГАНЧУКА.*

Раскавана паводзяць сябе школьнікі. Іх цікавяць не толькі захапляючыя дэтэктывы, але і сур'ёзныя энцыклапедыі з вычарпальнымі адказамі на ўсе пытанні, нават інтымныя. Некаторыя з іх гадзінамі стаяць ля паліц, яўна не збіраючыся нічога купляць. Яны чытаюць, спрабуюць тут жа на месцы запамятаць, нават дастаюць ручку і паперу, каб нешта запісаць.

У жанчын асаблівай папулярнасцю карыстаюцца кнігі па хатняй гаспадарцы, рукадзеллю, гатаванні страў, слёзна-салодкія раманы пісьменніц Смол і Картленд, дэтэктывы Аляксандры Марынінай.

Ёсць яшчэ адна катэгорыя пакупнікоў — так званыя новыя беларусы, героі сучасных анекдотаў. Яны звычайна не затрымліваюцца ў гандлёвай зале. Крутануцца сюды-туды, ацэньваючым позіркам акінуць магазіннае багацце і, маючы пэўны густ, бяруць кнігі оптам. Адразу на 10 мільёнаў, напрыклад, класічнай літаратуры ці на 17 мільёнаў — дэтэктываў.

**ДЫЯЛОГ НА ЗАДАДЗЕНУЮ ТЭМУ**

**— Малавата на паліцах класічнай літаратуры. Няўжо раманы Агаты Крысці значна цікавейшыя, чым творы Гогаля ці Дастаеўскага? — такое першае пытанне задаю загадчыцы кнігарні Валянціне Цімафееўне КВАШЭВІЧ.**

— Я згодная з вамі. Асноўны наш асартымент — дэтэктывы, баявікі, творы малавядомых замежных аўтараў. Мы — падняволыныя людзі, прадаем тое, што выпускаюць выдавецтвы. Яны ж апошнім часам у пагоні за прыбыткам узялі ўхіл іменна на такую літаратуру. Заўважце, большасць кніжнай прадукцыі, што цяпер маем у продажы, выпушчана расійскімі выдавецтвамі. Гэты тавар нам пастаўляе база аблкнігагандлю, а таксама некалькі выдавецка-гандлёвых фірм з Мінска.

Я лічу так: каб нашы пакупнікі былі б больш разборлівымі, нам не давялося прадаваць "Эмануэлей", "Машын кахання" і падобную літаратуру.

**— А беларускія выдавецтвы! Іхняя прадукцыя, напэўна ж, да вас даходзіць!**

— У нашай краме прыкладна трэць асартыменту прыпадае на беларускамоўную літаратуру: мастацкія творы, кніжкі для дзяцей, падручнікі, дапаможнікі. Разыходзіцца яна нядрэнна. Нашы заяўкі, якія мы робім згодна з тэматычнымі планамі выдавецтваў, на жаль, альбо выконваюцца часткова, альбо не выконваюцца зусім.

**— Колішні кніжны бум мінуў, і цяпер у вас свабодна можна набыць Булгакава, Купрына, Пушкіна. Абы былі грошы...**

— Вось іменна: "абы былі грошы". Якраз іх у нашых пакупнікоў не хапае. Дарагоўля не абмінула кніжную прадукцыю. У нас ёсць кніжкі коштам 500 тысяч рублёў і вышэй, а калі гэта выбраныя творы пэўнага пісьменніка ў некалькіх тамах, цана пераваливае за мільён-два. Такім кніжкам з-за незайздроснага матэрыяльнага становішча кнігалюбаў наканавана доўга чакаць пакупніка.

**"МАРАЛЬ ГЭТАЙ БАЙКІ..."**

Ды ніякай няма тут маралі, звычайная канстатацыя фактаў. Паўтаруся: нашы людзі часцей робяць выбар на карысць хлеба, а не відовішчаў. Апусцелі перыферыйныя кнігарні, кніжкі зрабіліся таварам незапатрабаваным, нехадавым.

Быценская кнігарня займала прыгожы тыпавы і асобны будынак. Цяпер ён аддадзены пад харчовыя тавары, а кніжкі перасяліліся ў гандлёвы цэнтр, дзе знайшлі прытулак у галантарэйным аддзеле.

Косаўская кнігарня зачынена на капітальны рамонт, а кніжнаму гандлю адведзена невялікае месцейка на другім паверсе ўнівермага. Целяханская кнігарня абсталявалася на другім паверсе ўнівермага, аднак убогі выбар літаратуры ды яе дарагоўля адпужваюць патэнцыяльных пакупнікоў.

Рынкавы сацыялізм цалкам не задушыў кніжны гандаль, але падкасіў яго грунтоўна. Ці зможа ён выпрастацца і падняцца з кален? Зможа, калі грамадства зажыве больш заможна, калі нашы людзі з-за сваёй нястачы перастануць дрыжаць над кожнай капейчынай.

*А. ЛАЎРАНЮК.*

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...Зрабіць рамонт у кватэры

***Рамонты, канешне, бываюць розныя. Не пазайздросціш таму, хто, атрымаўшы новую кватэру і адчуваючы радасць ад гэтай навіны, вымушаны з горыччу прымацца за той, так бы мовіць, фронт работ, які пакідаюць для навасёлаў пасля сябе будаўнікі. Але, тым не менш, трацячы нервы і грошы, навасёлы мяняюць дзверы, падлогу, шпалеры і г. д. Між тым, нічога не бывае вечным. З цягам часу цямнее, здаецца, яшчэ нядаўна бліскучая белая фарба, на пафарбаванай падлозе з'яўляюцца непажаданыя палосы, маральна і фізічна старэюць шпалеры...***

І вось перад чалавекам стаіць дылема — зрабіць чарговы рамонт. Дарэчы, а ў якую суму сёння ён можа выліцца, калі вы жывяце ў звычайнай двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай у 45 кв. м?

Непазбежна наш маршрут пралягае ў тыя магазіны ці аддзелы магазінаў, якія гандлююць гаспадарчымі таварамі, улічваючы, што трэба зрабіць самы звычайны, сярэдні рамонт без "еўра" і тых іншых "наваротаў", якімі забаўляюцца "новыя" беларусы.

Каб зноў пафарбаваць падлогу ў кватэры (будзем лічыць, што на кухні ў вас у добрым стане лінолеум, а ў туалеце і ваннай плітка) прыйдзецца купіць тры банкі фарбы для падлогі. Трэба заўважыць, што апошнім часам гэты тавар значна падаражэў і адна банка каштуе (на канец сакавіка) 1 мільён 218 тысяч рублёў. У двухпакаёвай кватэры тры акны, тры радыятары, шэсць дзвярэй, да якіх таксама патрэбна прыкласці сілы. Каб пафарбаваць названыя прадметы, неабходна не меней трох банак белай фарбы. Цана адной у тым жа магазіне "Гаспадарчыя тавары" — 1 мільён 456 тысячаў. Такім чынам, на фарбу мы затрацім каля 7—8 мільёнаў рублёў (сярэдняя зарплата ў нашых райцэнтрах).

Асобная размова пра шпалеры. Тут у нас ёсць хоць нейкая магчымасць для манеўру. Самыя танныя сёння каштуюць 200—300 тысяч рублёў за рулон. Пра самыя дарагія і гаварыць не хочацца. Тым не менш, прыгожыя шпалеры, дарэчы, беларускія, гомельскія, каштуюць 500—700 тысячаў рублёў. Цікаўлюся ў прадаўцоў магазіна гаспадарчых тавараў, якія шпалеры часцей за ўсё купляюць. Аказваецца, больш купляюць дарагія. Чаму?

— Людзі сур'ёзна адносяцца да стану сваіх кватэр, — адказваюць мне прадаўцы. — Вы ж, напэўна, самі жадаеце, каб у вашай кватэры было як мага прыгажэй? Доўга выбіраюць, штосьці лічаць, прыцэньваюцца (відаць, пакупнік шануе кожны рубель), але купляюць дарагія, якія, самі ведаеце, і больш прыгожыя. Хіба што бабуля якая-небудзь выбярэ самыя танныя.

У нашым выпадку мы выбіраем 7 рулонаў па 620 тысяч на спальню, 7 рулонаў на залу па 580 тысяч (гэты тып шпалер больш шырокі, таму патрабуецца тая ж колькасць на залу, што і на спальню), 9 за 610 тысяч — на калідор. Такім чынам, на спальню, залу, калідор мы патрацілі каля 14 мільёнаў рублёў.

Спатрэбіцца таксама не меней 2-х кілаграм клею для шпалераў. Пакет 0,5 кг (КМЦ) каштуе 650 тысяч рублёў. Няцяжка падлічыць, што на клей патрабуецца 2 мільёны 500 тысяч рублёў. Патрэбны 2—3 пэндзлі (у "Гаспадарчых таварах" кошт аднаго вагаецца ў межах 100—150 тысяч рублёў). Патрэбны вапна на столь, трошкі цэменту, але будзем лічыць, што гэтыя матэрыялы вы дастанеце, пазбегнуўшы магазінных трат.

Такім чынам, на самы звычайны рамонт патрабуецца не меней 25 мільёнаў рублёў, улічваючы, што ён абыдзецца без навамодных "наваротаў" — падвеснай столі, пластыкавых дзвярэй і г. д.

На такія патрэбы неабходна столькі грошай, якія без валідолу і падлічыць цяжка. З другога боку, і гэтая лічба не канчатковая, бо цэны, на жаль, у нас растуць у адзін бок. Але ў любым выпадку жадаем, каб у вашай кватэры заўжды было ўтульна, шаноўны чытач.

*А. МІХАЛЕНКА.*

ВАШЕ ПИСЬМО

# Надя — трактористка! Низкий тебе поклон!

Здравствуйте, уважаемая редакция "Газеты для вас"! В Ивацевичах я побывала проездом и случайно купила вашу газету. Удивилась, что в белорусском маленьком городе выходит такая газета — с ее страниц веет правдой жизни. Думаю, что и мое письмо вы напечатаете, буду благодарна.

А причина моего письма — большая благодарность к незнакомой женщине, человеку с большой буквы. Так случилось, что мне пришлось ей полностью довериться. Начну сначала.

10 марта с. г. я ехала из Санкт-Петербурга в Пинск на похороны отца. Вещей у меня — два больших чемодана и две сумки (продукты на похороны). Усталая, ноги отекли, болят.

Утро, жду автобуса на Пинск. Холод на вокзале. И деньги у меня русские, куда идти, где менять — не знаю. Да и багаж свой на кого оставить — не знаю. Сидит недалеко, на скамейке, женщина. Вижу, лицо хорошее, глаза добрые. Вот и решилась ей довериться. Прошу: сходите, поменяйте мне деньги, чтобы было за что билет взять. Другая женщина, рядом сидит, шепчет: вы что, а если не придет назад?

Но рискую. Знакомлюсь с той, кого прошу. Она говорит, что зовут ее Надя, едет в Телеханы к подруге.

Даю ей деньги, она уходит. Через короткое время возвращается, улыбается, отдает мне миллион белорусских рублей и еще в придачу теплый пирожок.

Автобус наш задерживается. Я решила признаться Наде, что нуждаюсь в таблетках. Сердце болит, не отпускает, все-таки еду хоронить отца. Хотя б валидола купить. И Надя опять бежит в аптеку и приносит мне лекарство. Потом помогает мне сесть в автобус. А у меня, больной, расстроенной, слезы на глазах. Вот ведь не перевелись хорошие и душевные люди.

Даю Наде деньги за всё, обижается, не берет. Желает мне хорошо доехать. Спрашиваю ее: кто Вы, Надя? Она отвечает: я — Надя-трактористка из д. Бытень (Ивацевичский район — **ред.**), меня знают и в районе, теперь на пенсии.

Уважаемая "Газета для вас"! Выразите моей новой знакомой большую благодарность через вашу газету. Я преклоняюсь перед такими людьми, у которых сердце — золотое. Немногие сейчас могут делать добро вот просто так, ради чужого человека, не требуя благодарности.

Я еду опять в Петербург и решила написать хоть несколько теплых слов о моей трактористке Наде. Жаль, что больше о ней ничего не знаю и завидую по-хорошему всем тем, кто с ней живет.

*Лариса Борисовна МИХАЙЛОВА.*

*Пинск—Ивацевичи—Санкт-Петербург.*

ПОСТ ДАІ

# Няўдалы абгон

Па дарозе Першамайск-Нарутавічы рухаўся аўтамабіль "ВАЗ-2101". Яго вадзіцель рашыў абагнаць машыны, што ішлі ў спадарожным напрамку, выехаў на паласу сустрэчнага руху, аднак не разлічыў і сутыкнуўся з "Фордам". Вынік дарожна-транспартнага здарэння такі: вадзіцель іншамаркі і яго пасажыр трапілі на бальнічныя ложкі. У першага — пералом дзевятага груднога пазванка, у другога — пералом шасці рабрын.

*Л. САШЫН.*

*Бярозаўскі раён.*

